# У ДНІ ВЯЛІКАЙ ЖАЛОБЫ

Усю ноч мароз стукаў аб сцены сваім тоўстым кіем. На вуліцы было холадна.

Сцёпка прачнуўся ледзь пачаў займацца золак.

— Мамка!—пачуўся яго голас з пасцелі.

— Спі яшчэ, спі!—сказала маці, падкідваючы ў печ бярозавых дроў.

Але Сцёпку не спалася.

— Мамка, тата прыехаў з горада?

— Прыехаў. Не лезь да яго, няхай спіць.

Сцёпка хуценька саскочыў з пасцелі, апрануўся і пачаў капашыцца ў кішэнях бацькавага кажуха.

— Чаго ты шукаеш? Яшчэ дакументы бацькавы параскідаеш.

Сцёпка не паслухаўся маці. Ён узяў у кішэні газету і сваімі шэрымі вочкамі пачаў чагосьці шукаць у ёй. Газета была за дваццаць першае студзеня.

— Здароўе Леніна яшчэ больш пагоршылася,—прагаварыў ён ціха.

Маці падышла да Сцёпкі, пагладзіла яго па галаве.

— Не сумуй, сынок! Ленін паправіцца.

Як развіднелася, Сцёпка пайшоў у школу. Вучыўся ён у трэцім класе.

Калі ўсе вучні сабраліся, да іх вышаў настаўнік.

— Добры дзень!—прывітаўся настаўнік. Вучні дружна адказалі: „Добры дзень!“

Сцёпка быў на пярэдняй парце. Яго вочкі п'яўкамі ўпіваліся ў настаўніка. Ён бачыў, што настаўнік перажывае ў сабе нешта трывожнае.

У класе было ціха.

— Учора ўвечары—як перадалі па радыё з Масквы,—загаварыў прыніжаным голасам настаўнік,—памёр Владзімір Ільіч Ленін...

На гэтым голас настаўніка абарваўся. Цяжка было гаварыць пра смерць правадыра.

Усе вучні ўсталі і некалькі хвілін стаялі моўчкі. На задняй парце дванаццацігадовая Валя пачала плакаць. У Сцёпкі таксама на вачах навярцеліся слёзы ад вялікага жалю.

— Не трэба плакаць,—сказаў настаўнік, сам ледзь стрымліваючы слёзы.—Владзімір Ільіч пакінуў замест сябе партыю большэвікоў і таварыша Сталіна. Ленінскія справы не памруць. Вялікі Ленін будзе жыць у сэрцы кожнага працоўнага чалавека.

Заняткаў у гэты дзень не было. Сцёпка адразу пайшоў дамоў. Не пайшоў ён і коўзацца на сажалку. Жаль па Леніну сціскаў яго сэрца нібы абцугамі.

Бацька і маці сядзелі за сталом—снедалі.

— Сцёпка! чаму-ж ты гэтак рана прышоў?—спытала маці.

Сцёпка нічога не адказаў.

На сцяне над сталом вісеў партрэт Владзіміра Ільіча. Сцёпка стаў на крэсла, зняў з сцяны партрэт і пачаў пільна глядзець на дарагія рысы Ленінскага твару. Міжвольна ў яго з вачэй пачалі капаць слёзы. Ён моцна прыціснуў да грудзей партрэт і прагаварыў:—памёр...

Бацька і маці глянулі на Сцёпку. Яны не хацелі верыць пачутаму страшнаму слову.

— Што ты, сынок! Дзе ты чуў гэта?

— У школе. Па радыё перадалі з Масквы.

Слёзы ў Сцёпкі закапалі яшчэ часцей. Ён глянуў на маці. Яна плакала, а бацька стаяў моўчкі, апусціўшы ўніз галаву. Сцёпка яшчэ мацней прыціскаў да грудзей партрэт Леніна.

**Пятрусь Дудо.**




# УЗБЕКСКАЯ ПЕСНЯ ПРА ЛЕНІНА

(*УРЫВАК*)

Ленін быў адзін, а ворагаў было многа.
Але Ленін пераканаў слабых і бедных,
Што мільён пясчынак утварае бархан,[1]
Што мільён зернят утварае мяшок,
Што мільён слабых стварае вялікую сілу.

І ён казаў праўду. Пасля доўгага змагання
Перамог ён дужых і багатых.
Як памёр ён, народ увесь плакаў па ім.

---

[1] Бархан—пяшчаны ўзгорак у пустыні.

# У Леніна

## (УРЫВАК З УСПАМІНАЎ СЕРГО ОРДЖАНІКІДЗЕ)

**Летам 1917 г. буржуазны ўрад хацеў арыштаваць правадыра працоўных таварыша Леніна. Шпікі бегалі па ўсім Петраградзе—так называўся тады Ленінград—і шукалі Ільіча.**

**Тады таварыш Сталін настояў на тым, каб Владзімір Ільіч схаваўся. Ільіч пасяліўся за Ленінградам, недалёка ад Фінляндскай граніцы, каля станцыі Разліў, у шалашы.**

**Успаміны таварыша Орджанікідзе адносяцца к гэтаму часу.**

... Сталін прапанаваў мне паехаць да Леніна. Мне быў дадзены адрас аднаго рабочага, які жыў недалёка ад Сестрарэцка, і пароль.

З вялікай небяспекай я ўзяўся за гэта, баючыся, каб не падчапіць шпіёна і не выдаць кватэры Владзіміра Ільіча.

Прыбыў я на станцыю ўночы. Пахадзіўшы крыху, я знайшоў дом, у якім жыў упамянуты рабочы. Самога рабочага не было дома, і жонка яго паслала праводзіць мяне свайго дзесяцігадовага сына. Мы прышлі да возера, пераправіліся ў лодцы на другі бераг і пайшлі па хмызняку.

Я парашыў, што таварыш Ленін жыве на якой-небудзь дачы. Раптам мы спыніліся каля сенажаці, дзе стаяў невялікі стог сена. Хлопчык аклікнуў некага па імені. Вышаў якісьці чалавек. Ён аказаўся бацькам гэтага хлопчыка. Я паздароваўся з ім. Растлумачыў яму, у чым справа. Думаю, далей павядзе к Леніну. У гэты час падыходзіць да мяне чалавек з голенай галавой і вусамі. Падышоў, прывітаўся. Я адказаў проста, суха. Тады ён хлопае мяне па плячы і кажа: „Што, таварыш Серго, не пазнаіце?" Аказалася, што гэта таварыш Ленін. Я шчыра пацiснуў яму руку, пайшла гутарка. Праз некалькі хвілін Ільіч запрасіў мяне павячэраць з імі чорным хлебам і селядцамі, больш у іх нічога не было.

Пасля гэтай вячэры гутарку перанеслі ў „пакоі" Леніна. „Пакоямі" быў стог сена, на які мы і ўзлезлі. Свежае сена пахла прыемна, было цёпла. Доўга я яму апавядаў, што рабілася ў горадзе, які настрой сярод рабочых, салдат, што робіцца ў нашай арганізацыі, у Петраградскім совеце

Владзімір Ільіч, выслухаўшы мяне і задаўшы рад пытанняў, сказаў:

— Уладу можна ўзяць цяпер толькі шляхам узброенага паўстання, яно не прымусіць сябе чакаць доўга. Паўстанне будзе не пазней верасня—кастрычніка...

Усё гэта я слухаў з найвялікшай увагай, уражанне было надзвычайнае.

Далей Ільіч даў рад установак, як весці работу.

Размова была перапынена, бо я ад зморы непрыкметна заснуў.

Раніцай заместа шасці гадзін я прачнуўся ў адзінаццаць. К гэтаму часу Владзімір Ільіч падрыхтаваў некалькі маленькіх артыкулаў, пісьмы да Сталіна і другіх таварышоў. Я ўзяў іх, развітаўся і пайшоў.

Неўзабаве мне прышлося зноў з'ездзіць да Ільіча: вазіў да яго таварыша Шотмана, які наладзіў пераезд Владзіміра Ільіча ў Фінляндыю.

Больш Владзіміра Ільіча я не бачыў да 24 кастрычніка, калі ён упершыню адкрыта з'явіўся ў актавым зале Смольнага. Калі я



Ленін у Разліве. Скульптура Пінчука.

ўвайшоў у зал, Владзімір Ільіч канчаў сваю прамову на паседжанні Петраградскага совета заклікам:

— Няхай жыве соцыяльная рэволюцыя!

Зал гулам гудзеў ад захаплення.

У вячэрніх газетах было надрукавана паведамленне, што Ленін пасяліўся ў Смольным і сам пачынае кіраваць паўстаннем.

Так, газетчыкі не памыліліся.

Ленін арганізацыю Кастрычніцкага паўстання ўзяў у свае жалезныя рукі і давёў яго да пераможнага канца.



*В. І. Ленін і І. В. Сталін размаўляюць з камандваннем фронта па прамому праваду. 1918 г.*

*Рыс. П.* ВАСІЛЬЕВА.

# ЛЕНІН У КАСТРЫЧНІКУ

## ЦІКАВЫ ФІЛЬМ

Я з адным маім таварышам глядзелі карціну „Ленін у Кастрычніку". Гэта вельмі цікавая карціна.

Асабліва нам спадабалася, як чырвонаармеец, седзячы побач з таварышам Леніным, запытаў у яго:

— Вы не бачылі Леніна? Кажуць, што ён недзе тут знаходзіцца.

А таварыш Ленін адказвае:

— А можа і тут.

Яшчэ мне вельмі спадабаўся момант, як Ленін, зайшоўшы з рабочым Васільевым у яго пакой, заўважыў на століку дзіцячую распашонку. Ён узяў яе ў рукі і моцна прыціснуў да грудзей. Ленін вельмі любіў дзяцей.

Менск, 45-я шк., 4 клас.

Віця Цараў.



*В. І. Ленін і І. В. Сталін з чырвонагвардзейцамі ў Смольным. 1917 г.*



*В. І. Ленін на Ўсерасійскай канфгрэнцыі РСДРП(б) у красавіку 1917 г.*

# НАРОДНЫЯ
# ЧАСТУШКІ ПРА ЛЕНІНА

*

Сонца ярка узыходзіць,
Асвятляючы бары.
Нас на бой супроць буржуяў
Ленін вёў у Окцябры.

*

Над зямлёй зара гарыць,
Над усім народам,—
Гэта Ленін, наш Ільіч,
Даў людзям свабоду.

*

Куплю Леніна партрэт,
Залатую рамачку;
Вывеў ён мяне на свет,
Цёмную сяляначку.

*

Ой, як Ленін паміраў,
Уся краіна плакала,
Гора цяжкае прышло,
Цяжкае для ўсякага.

*

Ленін, Ленін, мілы мой,
Ты ляжыш ў зямлі сырой,
А калі я падрасту,
Ў тваю партыю ўступлю.

*

Эх, каб Ленін мог сягоння
Паглядзець, як мы жывём,
Як з яго вучэннем верным
К жыццю новаму ідзём!

*

Калі Ленін паміраў,
Дык ён Сталіну сказаў:
— Братка Сталін дарагой,
Ты кіруй усёй страной.

*

— Вучыцца, вучыцца!—
Нам Ленін сказаў,
І верны к навуцы
Нам шлях паказаў.

# ПЕСНЯ ПРА СТАЛІНА

**Крылатыя песні
Адна за другой
Плывуць караванам
Над роднай зямлёй.**

**Мы гэтыя песні
Шчасліва пяём,
І Сталіну дзякуй
У песнях нясём.**

**З табою мы, Сталін,
Ідзём упярод.
Як радасна, светла
Жыве ў нас народ!**

**Пра Сталіна песні
Звіняць на ўсю шыр,
Народ пяе славу
Табе, правадыр!**

**Калі вораг рушыць
Да нашых граніц—
Мы пойдзем радзіму
Сваю бараніць!**

**Антон Кажушка.**

# ІСПАНСКІЯ ДЗЕЦІ Ў СССР



Іспанскія дзеці ў СССР акружаны любоўю і ўвагай. Яны вучацца ў школах на сваёй роднай мове, весела адпачываюць і развіваюць свае здольнасці ў гуртках самадзейнасці.

На здымку—іспанскія дзеці за вучобай.



Іспанскія дзеці вывучаюць танцы народаў нашай радзімы.

На здымку—заняткі балетнага гуртка.



У час адпачынку.



За гульнёй у рыч-рач. У гульні прымае ўдзел дачка Даларэс Ібаруры—Мая (у левым кутку зверху).



Ад меткага ўдару шар абавязкова трапіць у сетку...



Сёлета, 8 студзеня, споўнілася 60 год з дня смерці вялікага рускага паэта Нікалая Аляксеевіча Некрасава.

Н. А. Некрасаў нарадзіўся ў 1821 г., памёр—у 1878 г.

У сваіх творах Некрасаў апяваў гаротнае жыццё сялянскай беднаты. Вершы яго прасякнуты гневам супроць цара, памешчыкаў і ўсіх прыгнятальнікаў народа.

Шмат твораў Некрасаў прысвяціў дзецям.

# ГЕНЕРАЛ ТАПТЫГІН

Н. А. НЕКРАСАЎ

Нейк вечарам, зімой,
У мароз заўзяты
Па дарозе слупавой
Ехаў позна на пастой
Вазачок дахаты.
Не спяшаецца ён гнаць;
Коні то не слабы,
Ды дарога тут не гладзь—
Ямы ды ухабы.
Наганяе вазачок
Важака з мядзведзем.
„Пасадзі нас, галубок,
Весялей паедзем!“
— Што ты? з мішкам?—„А чаго?
Ён у нас ціхоня.
Лішні шкалік за яго
Будзеш мець сягоння.“
— Ну, сядайце!—Пасадзіў
Барадач мядзведзя,
Сеў і сам—і патрусіў
Памаленьку Федзя...
Бачыць наш Трыфон шынок,
Запрашае Федзю.
„Пачакай ты нас чуток!“
Кажа ён мядзведзю.
І пазлазілі з саней.
А мядзведзь астаўся.
Схарцаваўся ён зручней,
Аддыхаць уклаўся...

Штосьці доўга не відаць
Федзі і Трыфона!
Ды прывычныя стаяць
Коні спакойна.
Пацямнела у палях,
Холад крэпне нанач;
Заварочаўся ў санях
Міхайла Іваныч,
Коні скокнулі—бяда!
Нібы ашалелі,
І стралой наўскапыта
Трактам паляцелі.

Як пачуў знаёмы звон,
Выскачыў наш Федзя,
Ды дарэмна ўсё, і ён
Толькі іх і згледзеў.
Тройка мчала наўгалоп,
Ды яно—не дзіва:
На ухабах Мішка хроп
І рычэў пужліва;
Уцякаюць стар і мал:
„Ачышчай дарогу!
Сам Таптыгін генерал
Едзе на бярлогу!“
Скаланецца мужычок,
Страшна стане бабе,
Як калматы седачок
Зараве на ўхабе.

Ну, а коням проста жах—
Не передыхнулі!
Вёрст пятнаццаць на ўвесь мах
Бедныя катнулі!

Прама к станцыі ляціць
Тройка удалая.
На санях яздак сядзіць,
Галавой матае
Ды ўсё звоніць ланцугом.
Вось і стала тройка;
Сам наглядчык да яго
Выбягае бойка.
Бачыць, боты аж блішчаць
Ды з мядзведя шуба,
Не заўважыў, як відаць,
Што ў жалезе губа,
Не падумаў: дзе фурман?
(Хоць яго й не бачыць).
Думаў важны, мусіць, пан,
„Генерал“ няйначай.
Паспяшыўся шапку зняць,
Пана ён вітае.
„Што, паночку, вам падаць:
Гарэлкі ці чаю?..“
Хоча пану дагадзіць
Жвавы той дзядуля;
А мядзведзь як зарычыць!
Дык ад страху куляй
Ён адскочыў, ледзьве жыў:
„Госпадзі памілуй!
Сорак год я праслужыў
Верай, праўдай, сілай;
Многа бачыў за свой век
Генералаў розных,
І здаровых, і калек,
І ліхіх, і грозных,
А такіх вось чынадрал
Не страчаў чамусьці,
Небывалы генерал,
Пэўна, ў новым гусце!..“

Тут прыбеглі вазакі,
Дзівяцца нямала;
„Не, не бачылі такіх,—
Кажуць,—генералаў!“
На людзей нагнала страх,
Вёска ўся ў трывозе:
„Генерал раве ў санях,
Як мядзведзь ў бярлозе!“
Трус уцёк, а хто смялей,
Дык выпадку рады:
Лезуць блізка да саней;
А наглядчык ззаду.
Струсіў ён, здалёк крычыць:
„Мо' зайшлі-б паесці?
Мішка зноў як зарычыць...
Дык стары, нарэшце,
Не стрываў і ходу даў,
Ды з усёю світай...
Дзве гадзіны так ляжаў
Генерал сярдзіты.
Вось прыбеглі да саней
Вазак і важаты;
Супакоіў тут людзей
Трыфон барадаты,
І Таптыгіна прагнаў
З воза ён дубінай...
А наглядчык абазваў
Вазака скацінай.

Пераклад **А. Якімовіча.**






А. ЯКІМОВІЧ

Малюнкі К. ГЕДДА

*Урывак з апавядання аб Заходняй Беларусі*

... Мішка прачнуўся ад непрыемнага холаду. На дварэ яшчэ толькі развіднівалася. Туманна-змрочнае святло ледзь прабівалася ў хату праз адзіную замарожаную шыбу. У хаце было, як у лядоўні. Сям'я спала на зямлі ў саламяным логаве. Мішка спаў між бацькам і маткай, і яму было цяплей. Але, калі бацькі паўставалі, ён адзін не мог сагрэцца, хутка азяб і прачнуўся.

Ён хацеў павярнуцца на другі бок і лепей зашыцца ў салому, як пачуў зацікавіўшую яго размову:

— Няхай мо' пабудзе сёння дома?—гаварыла маці.

— А заўтра?—відаць, не згаджаўся бацька.

— Заўтра відней будзе...

Голас у маткі ціхі і плаксівы. Яна заўсёды так гаворыць. Мішка не памятае, калі маці была весялейшай. Яна або думае аб нечым, або паціху плача. Яна скардзіцца на гора. Мішка, канешне, разумее, што такое гора. Ён не маленькі. Гора—гэта тое, што ў хаце няма палена дроў, а на стале скарынкі хлеба. Гора—гэта тое, што яго меншыя брацсенік і сястрычка паўміралі з голаду. Такое гора кожны зразумее. Мішку хочацца зрабіць нешта такое, каб не было ў іх гора. Ён часта аб гэтым марыць. І ў марах заўсёды лёгка перамагае гэтае праклятае гора.

Зараз Мішку не цяжка было здагадацца, што размова ішла аб ім. „Чаму-б гэта „пабыць дома"?" падумаў ён. Але тут-жа ўспомніў: учора ён вярнуўся са школы амаль босы—ад лапцей засталіся адны аборы і некалькі вушак. Анучы таксама ўшчэнт распаўзліся.

Мішка падняў галаву. Бацька стаіць, як здань, каля нізкага акенца. Высокі, худы, з упалымі грудзямі, праз меру згорблены. На ім падраны суконны халат і апоркі. Доўгія валасы ўскудлачаны, абсыпаны абрыўкамі саломы. Ён нейкі час маўчыць, насупіўшыся, потым адварачваецца на хату.

— Параіла,—злосна сплюнуў ён у качарэжнік.

— Дык мо' і зусім няхай сядзіць дома?—зноў загаварыла маці.

Бацька нічога не адказаў.

Але тут Мішка не стрываў. Ён і чуць не хоча, каб пакінуць школу. Гэтага не можа быць. Ён ужо вывучыў усю азбуку, і цяпер пачынаецца самае цікавае—чытанне. Навошта-ж ён гэтулькі пакут перацярпеў ад настаўніка, пакуль адолеў азбуку?

Нарэшце выхад быў знойдзены. Канешне, Мішка павінен вучыцца, хоць бы адну зіму. Не пусціць яго ў школу ніяк не выпадае. Ён пойдзе ў школу ў бацькавых апорках! Яго завядзе маці і забярэ апоркі назад (бацька пакуль што пасядзіць дома). У школе Мішка астанецца босы. Там цёпла, не так, як дома. Хоць босы, абы вучыцца.

Пасля гэтага ў хаце, здаецца, нібы пасвятлела: і ад таго, што стала відней, і ад таго, што Мішка ўсё-ж пойдзе ў школу.

Апоркі, аб якіх ішла размова, былі бязлітасна разбіты і зношаны. На іх ужо даўно не засталося і следу ад былых ботаў. Але бацька шанаваў апоркі і клапаціўся аб іх не менш, чым аб хлебе. Гэта было ўсё, у чым ён мог выйсці з хаты, каб пашукаць якой выпадковай работы. І калі яны не паўміралі яшчэ з голаду ўсе, дык толькі дзякуючы гэтым апоркам.

Мішкаў бацька калісьці нават меў сваю невялічкую гаспадарку, меў свой хлеб і сваю бульбу. Цяпер у яго асталася толькі старая халупка. Яго, як і другіх такіх-жа сялян, давялі да торбы праклятыя фашысты.

***

Школа знаходзілася на хутары ў доме багатага шляхціца. У яго было два новыя прасторныя дамы, і адзін з іх ён ахвотна выпускаў у арэнду пад школу, бо, апрача арэнднай платы, меў і шмат іншых выгад: зімою вучні па загаду настаўніка рэзалі яму дровы, сечку, насілі ваду, вясной—ураблялі гароды...

Маці прывяла Мішку ў клас, зняла з яго апоркі і праказала скрозь слёзы на развітанне:



— Хаця каб не прастудзіўся ты, сынок?.

Твар яе быў засмучан трывогай.

— Не прастуджуся, мама,—абнадзеіў яе Мішка.—Толькі не пазніся, глядзі. Як пачне змяркацца, дык і прыходзь.

Мішка быў весялейшым, чым звычайна. Ён больш за бацькоў радаваўся знойдзенаму выхаду. Вучыўся ён з ахвотаю і стараўся як мог. Ды і весялей усё-ж у цёплай школе. Тут нават голад не так адчуваеш, як дома.

Вучні, якія былі ўжо ў школе, здзіўлена паглядалі то на Мішку, то на матку. Першы момант яны не ведалі, як успрыняць гэтую навіну. Але вось маці выйшла, і ў тую-ж хвіліну раздаўся пісклівы рогат другакласніка—рыжага Юзэфа:

— Басяк! басяк! Хлопцы, пашчыкатаць пяткі! Гэй!

Юзэф як каршун накінуўся на Мішку, за ім і ўся яго хэўра. Школа, на момант прыціхшая, напоўнілася шумам і крыкам.

Юзэф у школе быў галоўным заправілам. Ён меў нямала сваіх прыхільнікаў, сяброўства якіх падтрымлівалася больш страхам перад ім, чым шчырай да яго прыязню. Юзэф першая асоба пасля настаўніка: ён— сын мясцовага хутаранца, апрача таго—загадвае жарствой... Словам, ад яго шмат што залежыць у школьным жыцці.

Мішка страшэнна не цярпеў шчыкоткі. Спачатку ён спрабаваў адбрыквацца, потым крычаць нема, пасля, сціснуты з усіх бакоў, мог толькі пішчаць нешта невыразнае. Нарэшце ён стаў адчуваць, як некуды праваьваецца, галава закружылася і ён раптам сапраўды кудысьці упаў...

Калі, нацешыўшыся, Юзэф выпусціў Мішу, ён не ўцякаў, а так і астаўся ляжаць на падлозе. Бледна-сіні, з выразам пакуты твар яго быў падобны на мярцвецкі. Губы сударажна сцісн уліся. Худое, шчуплае цельца было нерухомым.

Юзэф спалохана заміргаў вачыма. Некаторыя з яго прыяцеляў адскочылі далей, нібы іх і не было тут.



— Вады!—крыкнуў хтосьці з гурту дзяцяй.—Зашчыкаталі!

Рэбяты, якія спачувалі Мішку, тут-жа сілай разнялі яго рот і ўлілі вады. Вобмарак неўзабаве прайшоў. Усё яшчэ лежачы на падлозе, Мішка здзіўлена глядзеў на акружыўшых яго дзяцей, нібы штосьці сіліўся ўспомніць. Але ў клас увайшоў настаўнік, і ўсе кулём кінуліся да сваіх парт.

— Добры дзень, пане настаўнік!—хорам зазвінелі з усіх куткоў галасы.

Настаўнік строгай паходкай важна шагае да стала. Гладка выгаленая лысая галава яго блішчыць, як медны самавар. Вусы старанна закручаны, як барановы рогі. Падпахай у яго тоўсты класны журнал.

Мішка ўсхапіўся амаль з-пад самых ног настаўніка. Настаўнік, які дагэтуль не заўважаў Мішку, раптам спыніўся. Яго мышастыя вочы, глыбока запалыя пад светлымі брывямі, выскачылі наверх, вусы заторгаліся, рот павольна пачаў разяўляцца.

— Гэтта што яшчэ?—прагрымеў у насцярожанай цішыні яго голас.

Перапалоханы да смерці Мішка подбегам падаўся да сваёй парты. Але настаўнік строга спыніў яго:

— Ну, адказвай: чаго валяешся пад нагамі ў мяне? Што за фокусы?

Мішка маўчыць. Ён зусім не ведае, што адказаць. Сагнуўшыся, ён пільна ўглядаецца ў падлогу, нібы шукае там згублены адказ.

— Галаву ўверх, калі размаўляеш са мной!—настаўнік падышоў да яго бліжэй, хапіў правай рукой за падбародак і злосна рвануў угору. — Будзеш адказваць?

Настаўнік пачынае ўваходзіць у сваю ролю. Рукі ў яго балюча засвярбелі, але ён пакуль трымаецца. Ці то рана яшчэ даваць ім волю, ці то вельмі-ж ужо незайздросны выгляд

Мішкі робіць уплыў нават на яго,—словам, сёння настаўнік настроены параўнаўча мірна.



Але з часам справа набывае сур'ёзны характар.

— Ты будзеш адказваць?—павышае ён голас.

— Не... не... ведаю...—Мішка хацеў сказаць, што яго сілай павалілі і шчыкаталі. Урэшце, ён і сам не ведае, што з ім было. Можа гэта яму толькі здаецца. Штосьці ўсё як у тумане. Толькі галава вельмі трашчыць ад болі і нешта, нібы малаткамі, стукае ў вісках...

Настаўнік не адстае. Ён бярэ лінейку і калючым поглядам абводзіць сваю ахвяру з ног да галавы, быццам хоча праверыць, колькі лап можа вытрымаць гэты свавольнік, які проста падымае яго насмех перад усёй школай—адмаўляецца адказваць на яго пытанні.

Але тут ён убачыў такое, ад чаго рука з лінейкай-лапай у яго адразу апусцілася.

— Хто дазволіў? У маёй школе—босы! Распуста!

Настаўнік пачарнеў ад злосці; ён доўга крычаў, лаяўся, гарачыўся.

— Зараз-жа абуйся і—марш на каленкі на цэлую гадзіну! Юзэф! жарствы, самай адборнай!—скончыў нарэшце настаўнік. Ён палічыў, што Мішка проста так сабе разуўся з дураслівасці, каб зручней было бегаць па класе.

— Пане настаўнік!—захіхікаў з дзвярэй Юзэф.—У яго няма чаго абуць.

Пры гэтым ён выскаліў зубы на клас і, здаволены сваёй заўвагай, падскокваючы пабег у кладоўку па жарству.

— Ах, вось як! Ну, гэта я разумею. То так трэба было і сказаць,—твар настаўніка весялее.—Ясна, у чым справа,—падміргвае ён вучням:—прыкінуцца беднячком хоча... Дык я-ж цябе адвучу прыходзіць у школу босым! Марш на жарству!

Мішка пакорна патупаў босымі нагамі ў кут, дзе Юзэф падрыхтаваў для яго самай адборнай калючай жарствы.

Вучэбны дзень пачаўся.

* * *

Ужо даўно разышліся вучні. Школа апусцела. Ад нязвычнай цішыні ў класе непрытульна і сумна. Мішка адзін сядзіць ля акна і нецярпліва ўглядаецца ў даль на дарогу. На дварэ змяркаецца, падымаецца завіруха. Вецер узнімае лёгкі снег з гурбаў і рассявае яго вакол. Ён стукае ў акяніцы, вые за вугламі. Аднаму ў класе робіцца вусцішна. Дзе-ж маці? Чаму не нясе яна апоркаў?

Галава баліць нясцерпна і ад перажытага за дзень і яшчэ больш ад голаду. Млявасць скоўвае ўсё цела. Раптоўная туга апаноўвае ім. Яму становіцца ўсё няміла—і гэтая пустая непрыветная школа, і сярдзіты настаўнік, і ганарысты задзіра Юзэф і—усё. Ніхто не зразумее яго. Нікому ён непа-

трэбен. Адна толькі маці зразумее яго, і ён усё, усё раскажа ёй. Але дзе-ж яна? Чаму яна так позніцца? Мусіць, бацька не вярнуўся яшчэ дахаты?..

Мішкавы мары перапыніў скрып дзвярэй.

— Чаго сядзіш? Пара. Для цябе аднаго школа будзе адкрыта?

Гэта быў Юзэф, той зненавідны Юзэф, які зашчыкатаў яго сёння да страты прытомнасці. Ён прышоў закрываць школу. Крыўда і пакуты перапоўнілі Мішкаву цярплівасць. Ён безнадзейна глянуў яшчэ раз у акно. Недалёка, кілометраў за два, бяleліся аснежаныя стрэхі іхняй вёскі...

— Закрывай,—горда сказаў Мішка, выходзячы за дзверы.

Першыя некалькі шагоў ён не адчуваў асаблівага холаду. Проста было непрыемна і толькі. Ён бег і стараўся аб гэтым не думаць. Потым у падэшвы ног стала калоць і ён адчуў, як дубянеюць пальцы. Мішка прыпусціўся тады на ўсю сілу. Варочацца назад было позна. Школа закрыта, а ісці да Юзэфа прасіцца—не! Гэтага ён не зробіць.

Бегчы становіцца цяжэй і цяжэй. Мішка расшпіліў халацік. Але і гэта не памагае. Ногі як нежывыя. Усё ўсярэдзіне млее. Грудзі разрываюцца ад перапоўненага паветра.

Вось ужо і ўзгорак, такі знаёмы яму. За ім—палавіна дарогі. Эх, сілы-б яшчэ крыху! Мішка напінаецца з усіх жыл. Ён сам яшчэ не заўважае, што сіла даўно ўся страчана, і ён ужо не бяжыць, а толькі ідзе подбегам і цяжка адсопваецца.

Вецер, які дзьмуў у бок, павярнуўся ў твар. Ён падхоплівае на полі снег і гарэзна абсыпае ім бегляца, злуецца, трымае яго, перагароджвае дарогу. Ногі Мішкавы правальваюцца ў завеяныя каляіны. Ён спатыкаецца і падае. Некалькі разоў ён яшчэ ўсхопліваўся, але потым страшэнна захацелася адпачыць, адолела раптоўная слабасць. У снягу-ж было так лёгка і прыемна, і ног зусім нават не чуваць. Толькі невыразныя туманныя мары мільгаюць перад вачыма. Моцны вецер ірвануў з поля і абсыпаў яго мяккім сняжком. Але—няхай сабе. Яшчэ хоць чутачку адпачыць-бы. Вочы самі зліпаюцца, і іх немагчыма разняць. Ды навошта гэта? Куды спяшацца! У школу? Не, ён болей туды не пойдзе!..



# НА КАТОК!

*Верш В. Гаўрука*

Пушысты і мяккі
На дрэвах сняжок.
Я сёння вясёлы
Іду на каток!

Там многа забавы
Для нас, дзетвары.
Мы любім катацца
На санках з гары.

Мы любім у снежкі
У школе гуляць
І лыжамі сцежкі
Ў палях пракладаць.

Шумяць верхавіны
Кудравых бяроз.
Не страшны нам вецер,
Не страшны мароз.

Іскрыцца на сонцы
Пушысты сняжок.
Я рады бясконца:
Пайду на каток!



# ПТУШКІ-КАЛЕКТЫВІСТЫ

Мы ведаем шмат прыкладаў грамадскага жыцця і калектыўнай працы жывёл: мурашкі, пчолы, бабры і інш. Дадамо яшчэ некалькі менш вядомых прыкладаў.

Ёсць у Афрыцы вераб'і, якіх завуць „грамадскімі вераб'ямі". Гэтыя вераб'і будуюць сабе цэлыя гарады. Сабраўшыся разам, яны спачатку пачынаюць будаваць сабе вялізную страху, або павець, пад якой магла-б размясціцца і сям'я чалавека з шасці—васьмі душ. Пад гэтай страхой вераб'і робяць гнёзды, часам штук трыста разам. Між гнёздаў пакідаюць вуліцы, завулкі. Калі сунецца да іх які вораг, то ўсе яны разам даюць яму дружны адпор. Адзін такі заядлы вораг—маленькі папугай—заўсёды любіць займаць чужыя гнёзды і пакрыўдзіў-бы кожнага вераб'я, каб яны жылі паасобку.

Ёсць яшчэ ястрабы, якія робяць адно агульнае гняздо на некалькі пар. Самкі ў іх сядзяць на яечках па чарзе.

Вельмі цікавыя справы робяць пеліканы—вадзяныя птушкі, якія жывуць у цёплых краінах, галоўным чынам у Афрыцы. Галоўнай асаблівасцю іхняга выгляду з'яўляюцца мяшкі пад вялізнай дзюбай. У гэтыя мяшкі яны кладуць спажыву. А жывяцца яны рыбай, і ловяць яе, як заўзятыя рыбакі. Яны выстрайваюцца на вадзе ў шарэнгу, поўкругам, і павольна набліжаюцца да берага. Ствараецца нібы рыбацкі нерат, нават лепшы яшчэ, бо рыбак не можа затрымаць тую рыбіну, якая ўцякае міма нерата, а пеліканы зловяць кожную. Такім чынам рыбалоўная арцель і сама пад'есць, колькі ўлезе і дзецям прынясе поўныя мяшкі рыбы.

**М.**

# ЗАГАДКІ

1. Калі чалавек бывае ў хаце без галавы?

2. Шэсць ног, дзве спіны, а галава адна. Што гэта такое?

3. Хто тчэ без варштата і без рук?

4. Хто нараджаецца з барадой?

5. Зямля белая, насенне чорнае, пяцёра аруць, двое наглядаюць, адзін кіруе.

6. Якая зорка з'явілася не на небе?

7. Што гэта такое: дзве галавы, шэсць ног і адзін хвост?

8. Цэлыя кнігі можам перадаць на сотні кіламетраў, а ніводнай пылінкі не перакінем нават на адзін крок.

9. З людзьмі сябруе, хату вартуе, жыве пад ганкам, хвосцік—абаранкам.

10. Стукае, ківаецца, ніколі не стамляецца.

11. Пабеглі ў лясок, задраўшы насок.

12. Пяць братоў без скуры без касцей.

13. Вісіць ігруша, есці нельга, бо ў сярэдзіне агонь.

14. Каціліся катушачка, ні змей, ні птушачка, ні камень, ні вада. А ну, адгадай?

*Адгадкі: калі высуне галаву праз акно; чалавек на крэсле; павук; казёл; чалавек піша; чырвонаармейская; чалавек на кані; тэлеграф і радыё; сабака; гадзіннік; сані; пальчаткі; электрычная лямпачка; сонца.*

## Накарміце трусіка

Намалюйце на картоне або на фанеры галаву трусіка, з дзіркаю замест рота, і гэты малюнак прымацуйце да адчыненых дзвярэй. Цяпер зрабіце з картону моркву і з паперы звычайны калпак.

Адзеньце калпак на вочы, адыйдзіцеся на шагоў пяць ад малюнка, а пасля паспрабуйце палажыць моркву ў рот трусіку. Не кожнаму гэта ўдасца.

У гульні можа прымаць удзел дзве групы. Выйграе тая група, у якой большасць удзельнікаў „накорміць" трусіка.



*ВЫПРАЎЦЕ ПАМЫЛКУ. У мінулым № 12 нашага журнала на ст. 8 пад малюнкам заместа прозвішча БЕЛЯКОЎ павінна быць—ЛЕВАНЕЎСКІ.*


ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"

СТУДЗЕНЬ 1938 № 1

ЦАНА 30 кап.



# ПАКЕТ



— Тэрміновы пакет! Занясі ў штаб генералу Франко!



„Генералу Франко? Напэўна важны пакет?“—парашылі рэбяты-піонеры.



Бравы фашысцкі ваяка бачыць па дарозе піўную...



А тым часам рэбяты не драмалі...



П'яны фашыст зноў імчыцца з тэрміновым пакетам.



Ад „пакета“ ў генерала Франко палезлі на лоб вочы.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА Адрэс рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна 20 000 экз. Зак. № 3060. Уп. Галоўліта № 4051.